# З візітам у Шырмы

*(Ад нашага карэспандэнта)*



Напэўна многім жыхарам Беластока, Бельска ці Саколкі вядомае імя Рыгора Шырмы. Пасля вызвалення ў 1940 г. гэты таленазіты музыкант, выдатны збіральнік і знаўца беларускай народнай музычнай культуры ўтварае ў Беластоку 60-асабовы хор. Былі ў ім людзі самых рознастайных прафесій. Пад вопытным кіраўніцтвам выдатнага музыканта хор хутка дасканаліўся, набываў усеагульную вядомасць і папулярнасць. 14 мая 1941 года хор Шырмы выязджае на гастролі ў Маскву. Апрача Масквы хор даў шэраг канцэртаў і ў іншых гарадах Расіі і прыкаспійскіх рэспублік. Вайна 1941 года застала хор у горадзе Орол.

*

Рыгор Шырма прыняў мяне надзвычай ветліва — вельмі быў рады пабачыць кагось з Беластока. Да вайны Рыгор Шырма жыў у Беластоку на вуліцы Антонюк Фабрычны. Рыгор Раманавіч неахвотна ўспамінае мінулае. У варунках вялікапанскай пагарды да ўсяго беларускага нялёгка было ўзнімаць цаліну народнай музычнай культуры. — Вільня. Хор пры беларускай гімназіі, а пасля яе ліквідацыі — студэнцкі хор пры універсітэце. Нацыяналістычныя авантуры пілсудчыкаў падчас канцэртаў, падазроныя позіркі паліцаяў. Бясконцыя просьбы да розных старостаў і ваяводаў аб дазвол на выступленні, дыскрымінацыі ўдзельнікаў хору, вось мінулае.

Рыгор Раманавіч паволі падыйшоў да бібліятэчкі. Асцярожна паклаў на стол вялікі сшытак нотных рукапісаў.

— Вось вынік 30-цігадовай збіральніцкай працы, — пачаў — зборнік «Беларускія народныя хоры», над якім працавала каля 40 беларускіх, рускіх, украінскіх кампазітараў. У яго ўключана каля 130 хораў. Ужо ўсе спраўджаны і падрыхтаваны да выдавецтва. Спадзяюся ў наступным годзе выдаць яго ў Маскве, — коратка паінфармаваў. — Гэта свежы, народны, нікому невядомы музычны матэрыял, — дадаў. — У ім будуць самыя рознастайныя песні — калядныя, валачобныя, купальскія, сіроцкія, рэкруцкія, жартоўныя і г.д.

Калі Вы, дарагія чытачы, чытаеце гэтыя радкі, у Маскве мабыць выйшаў ужо з друку яшчэ адзін даволі вялікі фальклорны песенны зборнік Шырмы, у які ўключана каля 200 песень, прызначаных у асноўным для гурткоў мастацкай самадзейнасці. У ім Вы знойдзеце шмат песняў ад нас, з Беласточчыны: з-пад Гарадка, Тапільца, Страшава, Пясчанік, Нараўкі.

— Народ беларускі незвычайна здольны. Простую беларускую сялянку вывелі ў шырокі свет, — усхвалявана кажа Рыгор Раманавіч. — Калісь гэта было немагчымым...

Савецкі ўрад высока ацаніў заслугі вядомага дзеяча мастацтва. Рыгор Раманавіч узнагароджаны многімі медалямі і граматамі Вярхоўных Саветаў БССР і СССР. Цяпер Рыгор Шырма народны артыст СССР і дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, ужо трэці раз быў выбраны дэпутатам у Мінскі гарадскі савет.

У 1955 годзе, пасля дэкады беларускага мастацтва ў Маскве, хору прысвоена званне Дзяржаўнай харавой капелы БССР. У 1957 годзе, за высокае выканаўчае майстэрства прысвоена званне Дзяржаўнай Акадэмічнай харавой капелы БССР. Налічвае яна 65 чалавек.



*Выступленне хору Шырмы ў філармоніі ў Вільні.*

Нядаўна ў Міністэрстве культуры БССР прынята пастанова аб павелічэнні асабовага складу капелы да 80 чалавек.

Побач беларускай музычнай культуры значнае мейсца ў рэпертуары капелі займае музыка іншых народаў, асабліва славянскіх. Багата прадстаўлена руская класіка — творы Чайкоўскага, Рымскага-Корсакава, Танеева і інш. Капела выконвае на беларускай мове дзевятую сімфонію з аркестрам Бетховена, «Reqviem» — на латынскай мове, творы Моцарта, Грыга і іншых заходнееўрапейскіх кампазітараў. Багата рэпрэзентуецца і польская музыка — «Wesele Sieradzkie» — М. Проснака, «Pod okapem śniegu» — Шэлігоўскага; творы Манюшкі, Казуры, Невядомскага, Падэрэўскага, Сікорскага і г. д. Творы польскіх кампазітараў выконваюцца на польскай мове. Слухалі іх шахцёры Урала, Кузбаса, рабочыя і будаўнікі ў Запаляр'і, салдаты на франтах II Сусветнай вайны.

Да гэтага часу запісана каля 150 харавых нумараў на пласцінкі. У Маскве зроблена таксама каля 150 гуказапісаў харавых нумараў на доўгаграючыя пласцінкі. Цяпер капела падрыхтоўвае новыя нумары да гуказапісаў на доўгаграючыя пласцінкі. Пры гэтым варта падкрэсліць, што гуказапісы на доўгаграючыя пласцінкі робіцца толькі з харавых нумараў капелы Шырмы (на ўвесь СССР!).

Капела вельмі часта выступае перад жыхарамі Мінска: на заводах, у парках; адбывае гастрольныя паездкі па гарадах і мястэчках рэспублікі. На сваім конце мае ўжо звыш 3.000 канцэртных выступленняў, на якіх прысутнічала, агульна, каля 2 мільёнаў чалавек!

Калі я падчас перапынку ў рэпетыцыі размаўляў з групкай артыстаў, падыйшлі да мяне тры жанчыны. — Выбачайце, вы з Беластока?

— Так.

Аказалася, што гэта ўраджэнкі Беласточчыны — Люба Макарук з Беластока; Елена Зальцман з Старасельцаў і Елена Шафран з Міхалова. Справіўшыся з першай атакай пытанняў аб сваіх знаёмых з Беласточчыны, чым хутчэй трэба было ўвекавечыць гэтую нечаканую і мілую сустрэчу (глядзіце здымак побач).



*Артысткі: Люба Макарук з Беластока, Елена Зальцман з Старасельцаў і Елена Шафран з Міхалова.*

На канец яшчэ адна (праўда, пакуль неафіцыйная) звестка: на студзень 1958 года капэла Шырмы завітае да нас, у Польшчу. Ну, і спадзяемся, што Беласточчыны не абміне. У кожным выпадку, капела ўжо памаленьку рыхтуе адпаведны рэпертуар.

— Праз Вашу паважаную газету, — кажа Рыгор Раманавіч — хачу яшчэ раз сардэчна падзякваць Аддзелу культуры Польскага пасольства ў Маскве за тое, што дапамог мне ўкамплектаваць многа польскіх народных песень і хораў. Калі здзейсняцца нашы намеры, то пачуеце іх у сябе, у Польшчы, у нашым выкананні.

З нецярплівасцю чакаем.

С. ЯНОВІЧ

ПЯТРО ПРЫХОДЗЬКА

## Чайкі над Мінскам

Адкуль яны, белыя, белыя?
Які іх занёс сюды лёс
Пад Мінск, дзе калоссі даспелыя
Шумяць паміж белых бяроз?
Далёка прастора марская,
І Нёман і Нарач. А тут
Вузенькая Свіслач пятляе,
У кожны заглядвае кут.
Мінск вечна няморскі быў горад;
Наўкол — луг, ды поле, ды лес.
З якіх-жа ляцяць яны мораў,
Шукаюць якіх яны месц?
Чаму яны кружаць над пляцам,
Над полем, дзе высіцца бор?
— Дзівак, — кажуць мне, — што здзіўляцца!
Ёсць мора і чайкам прастор.
Не дзіва, што чайкі над мірнаю
Зямлёй, дзе шуміць ціхі гай.
На тых падзівіся, хто выраем
Няморскі зрабіў для іх край.
Ты бачыш адноўлены горад?
А далей, дзе неба блакіт,
Сягоння там Мінскае мора
Шуміць ля зялёных ракіт.
Пакуль аб ім мала хто знае,
Няма і на карце яго,
А чайкі ўжо залятаюць
Ад дальніх сюды берагоў,
І мо' з-за Дняпра ў поўдзень майскі
Яны завіталі сюды?
З'явілася-б мора,
А чайкі
Яго адшукаюць заўжды.

## У 14-ую гадавіну паўстання ў Беластоцкім гета

16 жніўня мінае 14 год ад моманту, калі ў Беластоцкім гета выбухла ўзброенае паўстанне.

Барацьба яўрэйскага насельніцтва, прызначанага гітлераўцамі на знішчэнне, з'яўляецца знамянальнай старонкай у гісторыі рэвалюцыйных змаганняў Беластоцкага пролетарыяту супроць фашызма.

У барацьбе за свабоду ішлі ў той бой з акупантамі палякі, яўрэі, беларусы, рускія, — з'едналыя супольнай ідэяй, супольна пралітай крывёю.

Узброенае супраціўленне ў Беластоцкім гета (жнівень 1943 г.) з'яўляецца пасля гістарычнага паўстання ў Варшаўскім гета (красавік—май 1943 г.) — другім вялікім актам барацьбы яўрэяў у перыяд акупацыі.

Беластоцкае гета створана акупацыйнымі уладамі 26 ліпеня 1941 года ўжо 1 жніўня было закрытае. Гітлераўцы імкнучыся да знішчэння яўрэйскага насельніцтва, стараюцца адізаляваць яго ад іншых нацыянальнасцяў.

Адначасова гітлераўцы ўжывалі сродкі рэпрэсій. Ад 27 чэрвеня 1941 года (у гэтым дню немцы занялі Беласток) да 13 ліпеня 1941 г. гітлераўцы расстралялі на Петрашах каля 8 тысяч яўрэяў, падпалілі сінагогу (запоўненую яўрэямі), зраўнялі з зямлёю цэлы раён Беластока, у якім яны пражывалі.

Акупанты ў першую чаргу імкнуцца знішчыць яўрэйскіх комуністаў.

Расстралялі яны Майсея Грынбаўна — шматгадовага дзеяча КПП, вязня Картуз-Бярозы; Якуба Бібэляйзэра — дзеяча КПП; Гэрша Давідсона — дзеяча КПП; Хаіма Вайскоўскага — дзеяча КПП у Лодзі і шмат іншых.

У меру ўзмацнення рэпрэсіяў, расце ў Беластоцкім гета і рух супраціўлення. Узначальваюць гэты рух комуністы. Арганізуюць яны Антыфашысцкі Блок, згуртоўваючы вакол сябе яўрэйскіх антыфашыстаў. Адначасова яны навязалі кантакт з польскімі, беларускімі, рускімі антыфашыстамі.

У тым часе на чало беларускіх антыфашыстаў высоўваецца Ганна Чэрвякоўская (Нюра), якая сумесна з правадыром польскіх антыфашыстаў, Антонім Якубоўскім, навязваюць кантакты з яўрэйскімі змагарамі, дапамагаюць ім здабываць зброю, перадаюць інфармацыі і тд.

У імя пролетарыяцкай салідарнасці беларуска — Броня Зімнох аддае сваё памяшканне ў карыстанне сувязных «Яўрэйскай Самаабароны».

У вёсцы Бакунавічы польскі селянін, Антоні Курыла-Савіцкі і беларус — Коля Бакунін дапамагалі сувязным з гета, прыносілі часткі радыёпрыёмнікаў, перадавалі інфармацыі.

Змагарам гета дапамагалі такія польскія і беларускія патрыёты, як: Вацэк Высоцкі, Савіцкая, Багнюк, Тадэуш Пісэра і іншыя. Яўрэйскія патрыёты разумелі, што акупант прыступіў да ліквідацыі гета, таму падрыхтоўваліся да супраціўлення.

Няўдачы нямецкіх войскаў на фронце, асабліва, разгром пад Сталінградам, прыспешылі тэрмін астатковай ліквідацыі беластоцкіх яўрэяў.

Нямецкія ўлады Беласточчыны, пад кіраўніцтвам Коха, пастанавілі распачаць ліквідацыю гета 16 жніўня 1943 г.

На вестку аб ліквідацыі гета «Яўрэйская Самаабарона», пастанавіла ўзняць паўстанне.

Пачалося яно ў 10 гадзін раніцы. Наступаючыя на гета атрады СС, гестапа, паліцыі, прывітаў густы агонь. Так пачаўся бой у гета яўрэяў з перавышаючымі сіламі ворага, які прадаўжаўся да 20 жніўня.

Немцы вымушаны былі ўвясці ў бой артылерыю, танкі і самалёты.

Толькі пад напорам па зубы ўзброеных фашысцкіх атрадаў паўстанне ў Беластоцкім гета гітлераўцы зламалі. Вуліцы гета былі заліты крывёй.

Памяць аб геройскай барацьбе яўрэяў у Беластоцкім гета ёсць і застанецца ў памяці пакаленняў.

УЛ. ЛЕБЯДЗІНСКІ

**Усякая ўсячына**

## Перакінулі гару

У Алтайскіх горах вядзецца дарожныя работы з мэтай скараціць дарожную трасу і запэўніць падарожнічаючым лепшую бяспеку. Непадалёк вёскі Чэрга, шаша абмінае вялікую гару. Вырашана ўзарваць яе, але так, каб не засыпаць недалёка праплываючай ракі Семы.

Пасля складаных аблічэнняў у высвідраваныя вялізныя дзіры змешчана 85 тон выбуховага матэрыялу. З уключэннем электрычнага току, 25 тыс. кубічных мэтраў зямлі і скалаў пайшло ў паветра і ўпала аж на другім беразе ракі Семы.

## Гэта цікава

У Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі апрацавана танны спосаб перахоўвання лішак светльнага газу. Пасля дакладных доследаў свідруецца дзіру праз непранікальныя паклады гліны ці марглію і ціснецца туды газ прызначаны на перахаванне. Такім чынам у 1955 годзе замагазінавана звыш 60 мільёнаў кубічных метраў коксавага газу.

## Спосаб на ваўкі

Пастухі поўночных аленяў у Мурманскай акрузе выпадкова знайшлі вельмі добры сродак забеспячэння аленяў ад нападаў ваўкоў, якія дагэтуль рабілі значныя страты.

Шмат клопатаў прычынялі пастухам авадні, якія кусаючы аленяў зніжалі вартасць іх скур. Каб пазбегчы гэтага пастухі некалькі год таму назад пачалі ўжываць хімічны сродак — апырскванне аленяў растворам гексахлору. Праз пэўны час нечакана заўважылі дзіўную з'яву: на апырсканыя чароды аленяў перасталі нападаць не толькі авадні, але і ваўкі. Пах гексахлору ёсць вельмі непрыемны і трывалы.

Відаць, драпежнікаў тундры — ваўкоў, якія да чародаў аленяў падыходзяць заўсёды пад вецер, запужаў незвычайны ім пах.

## Будзем глытаць... кароткахвалёвыя перадатчыкі

Як паведамляе «Юнгэ Вэльт» (ГДР), вядомыя дрэздэнскія даследнікі: атамавы фізік, прафесар Ардэннэ і хірург, прафесар Шпрунг, пасля доўгіх доследаў, прыдумалі найдакладнейшу прыладу да выкрывання страўнікавых і кішачных захворванняў у людзей.

Гэта ёсць, так званая, «радыёвая зонда», якая складаецца з маленькага корпуса даўжынёй 24 міліметраў, пакрытага пластычнай масай.

У нутры гэтага корпуса (велічынёй фасолі!) знаходзіцца камплектны кароткахвалёвы радыёвы перадатчык з мікраскапічнымі такімі элементамі, як: транзыстары (заступаюць радыёлямпы) а нават акумулятар. (які спаўняе ролю зонды — цяжкасці).

Хворы глытае «радыё-зонду», як пілюльку, якая вандруе праз органы страваўання г. зн. страўнік і кішкі, сігналізуючы пры гэтым, як бездратавы тэлеграф, дакладныя, такія даныя, як: ціск, кіслотнасць і г. д.

Гэтыя звесткі перадаюцца «радыё-зондай» спецыяльнаму радыёпрыёмніку, дзе аўтаматычна запісваюцца пры дапамозе самапішучага асцылаграфа. З атрыманых, такім чынам, паказчыкаў, лекар арыентуецца ў родзе захворванняў.

«Радыё-зонду» смела можна залічыць — піша «Юнгэ Вэльт» — да цудаў тэхнікі.

Рэвеляцыйнае гэтае вынаходства неўзабаве будзе выкарыстана ў шырокім маштабе на службе медыцыны.

І. Р.

*Завод імя Ільіча ў Ленінградзе вырабляе высокаякасныя машыны для паліроўкі і шліфавальныя станкі. Завод, між іншым, дае пастаўкі гэтага абсталявання краінам народнай дэмакратыі.*

*Ужо заканчваюцца выпрабаванні заказанага Польшчай металаапрацоўчага станка.*

*На здымку: манцёр С. Іваноў у час рэгуляцыі станка для польскай машыннай прамысловасці.*

*Фото — ЦАФ.*

**Парады гаспадарам**

## Памятаць пра ўборку другога накосу

Важным момантам уборкі сена ёсць сушэнне травы. У нас практыкуецца сушэнне ў капіцах, а гэта спосаб стары і неэканамічны, дзеля таго, што пры зменнай пагодзе прычыняе вялікія страты даходзячыя да 50 прац. вартасці сена. Нельга тут лічыць на добрую пагоду, а сена прапаласканае вадою страціць цэнныя кармовыя рэчывы. Апрача таго пры гэткай уборцы ёсць шмат працы. Трэба некалькі разоў заграбаць, варочаць, растрасаць і капіць сена ў залежнасці ад таго, як часта праходзяць дажджы, пры чым сена, а таксама матылькавыя расліны як: люцэрна, канюшын, сэрадэля і іншыя крушацца і трацяць вартасць. Сена сушанае ў копках прасякае пахам зямлі, траціць смак. Падчас дажджу сена брудзіцца зямлёю, што абніжае яго якасць. На полі ці лузе, у месцы дзе ляжалі копкі паўстаюць вялікія жоўтыя плямы.

Сена трэба сушыць на сушаках. Застасаванне сушакоў дае здаровае, багатае ў корм, аб прыемным паху і лёгка страўнае сена, забяспечвае яго ад дажджу, змяншае да мінімум працу ў часе сушэння. За сушакі могуць служыць: казлы, дашкі, трыногі (трайногі), якія робіцца з жэрдзяў каля 8—10 см грубасці.

Ужо ў першым дню пасля скашэння, калі трава звяне, можна яе згрэбсці і злажыць на рыштаваннях дашкоў. Сена трэба складаць пластамі, дзеля таго, каб вада не магла пранікнуць яго наскрозь. Сушакі трэба расстаўляць так, каб ніжнія перакладзіны знаходзіліся на вышыні 60 см. ад зямлі.

На лузе сена можна пратрымоўваць толькі пры добрай пагодзе, але калі заносіцца на змену пагоды — тады трэба звозіць яго нават недасушанае, перасыпаючы соллю: на 100 кг сена — 2 кг солі. Салянае сена лепш перахоўваецца і лепш смакуе жывёле.

Мгр. В. ТРАХІМОВІЧ

(Працяг са стар. 5)

## Беларускія жніўныя абрады

*Бадай пану ў двары страшна,*
*Як нам ў полі сонца зайшло.*
*Сонца зайшло, а мы жнема,*
*Пры месяцы снапы носім.*
*Бадай пана не хавалі,*
*Каб сабакі разарвалі,*
*Каб сабакі разарвалі,*
*Каб па пану ваўкі вылі.*

*Бадай пана грамы ўбілі,*
*Як мы ручкі прытамілі.*

*Наш пан — баран, баран,*
*Не пушчае жанцоў зарань.*
*Наша пані авечая,*
*Дзяржыць жанцоў да вечара*
*А мы з поля ідзём*
*Ды прыганятага клянём.*
*Ой, мы свайму пану*
*Учынілі славу —,*
*Бо выжалі жыта лаву.*
*Здароў, пане, жыта зжаўшы;*
*Каб ты здох не лепетаўшы,*
*Не хварэўшы, не балеўшы,*
*Ды нашу працу еўшы.*

Гэтыя словы аж надта сведчаць аб цяжкім жыцці жней-прыгонніц. Песняў падобных ёсць незлічоная колькасць не толькі ў беларускім народзе, але усюды, дзе толькі быў прыгон і дзе трэба было працаваць на паноў.

Словамі жней-прыгонніц прамаўляе і наш слаўны паэт Янка Купала ў вершы «Песня жней»:

*Пагнуўшы ў крук худыя спіны*
*Сярпом махаючы крывым,*
*Мы, жонкі, удовы і дзяўчын*
*Пры доўгай постаці стаім*
*І дружна жнём.*
*І падаём*
*Адна аднэй*
*Ахвоту больш*
*І песню жаласна пяём.*
*Асобна кожную загонам*
*Нас надзяліў пан-дабрадзей,*
*А над усімі злы аконам*
*Стаіць, ганяе жаць бардзей.*

. . . . . . . .

*Мы жнём, растуць снапы і метлі,*
*Мы жнём людзям; адно пабач:*
*Гаротным нам хоць лезь у петлі, —*
*Працуй на полі — дома плач.*
*Гэй, жнема, бабкі і дзяўчынкі,*
*Гаруйма: гора — не напасць,*
*Пан справіць гучныя дажынкі:*
*За пот, кроў, слёзы, — водкі дасць!*
*Мы будзем піць,*
*Як гора п'ём,*
*Паноў хваліць*
*І дружна ім*
*Скрозь слёзы песню прапяём.*

Незалежна ад гэтага, трэба сцвердзіць з радасцю, што — нягледзячы на былыя цяжкія палітычныя і нацыянальныя абставіны, у якіх народ наш быў на працягу вякоў, — гэта прыгожае, народнае свята, абрады, звычаі і песні захаваліся з усёй сваёй красой і хараством, адлюстроўваючы ўсё жыццё беларускага селяніна і беларускай вёскі.

П. ЛАСТАЎКА.

# У 14-ую гадавіну паўстання ў Беластоцкім гета

16 жніўня мінае 14 год ад моманту, калі ў Беластоцкім гета выбухла ўзброенае паўстанне.

Барацьба яўрэйскага насельніцтва, прызначанага гітлераўцамі на знішчэнне, з'яўляецца знамянальнай старонкай у гісторыі рэвалюцыйных змаганняў Беластоцкага пролетарыяту супроць фашызма.

У барацьбе за свабоду ішлі ў той бой з акупантамі палякі, яўрэі, беларусы, рускія — з'еднаныя супольнай ідэяй, супольна пралітай крывёю.

Узброенае супраціўленне ў Беластоцкім гета (жнівень 1943 г.) з'яўляецца пасля гістарычнага паўстання ў Варшаўскім гета (красавік—май 1943 г.) — другім вялікім актам барацьбы яўрэяў у перыяд акупацыі.

Беластоцкае гета створана акупацыйнымі уладамі 26 ліпеня 1941 года ўжо 1 жніўня было закрытае. Гітлераўцы імкнучыся да знішчэння яўрэйскага насельніцтва, стараюцца адізаляваць яго ад іншых нацыянальнасцяў.

Адначасова гітлераўцы ўжывалі сродкі рэпрэсій. Ад 27 чэрвеня 1941 года (у гэтым дню немцы занялі Беласток) да 13 ліпеня 1941 г. гітлераўцы расстралялі на Петрашах каля 8 тысяч яўрэяў, падпалілі сінагогу (запоўненую яўрэямі), зраўнялі з зямлёю цэлы раён Беластока, у якім яны пражывалі.

Акупанты ў першую чаргу імкнуцца знішчыць яўрэйскіх комуністаў.

Расстралялі яны Майсея Грынбаўна — шматгадовага дзеяча КПП, вязня Картуз-Бярозы; Якуба Бібэляйзэра — дзеяча КПП; Гэрша Давідсона — дзеяча КПП; Хаіма Вайскоўскага — дзеяча КПП у Лодзі і шмат іншых.

У меру ўзмацнення рэпрэсіяў, расце ў Беластоцкім гета і рух супраціўлення. Узначальваюць гэты рух комуністы. Арганізуюць яны Антыфашысцкі Блок, згуртоўваючы вакол сябе яўрэйскіх антыфашыстаў. Адначасова яны навязалі кантакт з польскімі, беларускімі, рускімі антыфашыстамі.

У тым часе на чало беларускіх антыфашыстаў высоўваецца Ганна Чэрвякоўская (Нюра), якая сумесна з правадыром польскіх антыфашыстаў, Антонім Якубоўскім, навязваюць кантакты з яўрэйскімі змагарамі, дапамагаюць ім здабываць зброю, перадаюць інфармацыі і тд.

У імя пролетарыяцкай салідарнасці беларуска — Броня Зімнох аддае сваё памяшканне ў карыстанне сувязных «Яўрэйскай Самаабароны».

У вёсцы Бакунавічы польскі селянін, Антоні Курыла-Савіцкі і беларус — Коля Бакунін дапамагалі сувязным з гета, прыносілі часткі радыёпрыёмнікаў, перадавалі інфармацыі.

Змагарам гета дапамагалі такія польскія і беларускія патрыёты, як: Вацэк Высоцкі, Савіцкая, Багнюк, Тадэуш Пісэра і іншыя. Яўрэйскія патрыёты разумелі, што акупант прыступіў да ліквідацыі гета, таму падрыхтоўваліся да супраціўлення.

Няўдачы нямецкіх войскаў на фронце, асабліва, разгром пад Сталінградам, прыспешылі тэрмін астатковай ліквідацыі беластоцкіх яўрэяў.

Нямецкія ўлады Беласточчыны, пад кіраўніцтвам Коха, пастанавілі распачаць ліквідацыю гета 16 жніўня 1943 г.

На вестку аб ліквідацыі гета «Яўрэйская Самаабарона», пастанавіла ўзняць паўстанне.

Пачалося яно ў 10 гадзін раніцы. Наступаючыя на гета атрады СС, гестапа, паліцыі, прывітаў густы агонь. Так пачаўся бой у гета яўрэяў з перавышаючымі сіламі ворага, які прадаўжаўся да 20 жніўня.

Немцы вымушаны былі ўвясці ў бой артылерыю, танкі і самалёты.

Толькі пад напорам па зубы ўзброеных фашысцкіх атрадаў паўстанне ў Беластоцкім гета гітлераўцы зламалі. Вуліцы гета былі заліты крывёй.

Памяць аб геройскай барацьбе яўрэяў у Беластоцкім гета ёсць і застанецца ў памяці пакаленняў.

УЛ. ЛЕБЯДЗІНСКІ

**Усякая ўсячына**

## Перакінулі гару

У Алтайскіх горах вядзецца дарожныя работы з мэтай скараціць дарожную трасу і запэўніць падарожнічаючым лепшую бяспеку. Непадалёк вёскі Чэрга, шаша абмінае вялікую гару. Вырашана ўзарваць яе, але так, каб не засыпаць недалёка праплываючай ракі Семы.

Пасля складаных аблічэнняў у высвідраваныя вялізныя дзіры змешчана 85 тон выбуховага матэрыялу. З уключэннем электрычнага току, 25 тыс. кубічных мэтраў зямлі і скалаў пайшло ў паветра і ўпала аж на другім беразе ракі Семы.

## Гэта цікава

У Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі апрацавана танны спосаб перахоўвання лішак светльнага газу. Пасля дакладных доследаў свідруецца дзіру праз непранікальныя паклады гліны ці марглію і ціснецца туды газ прызначаны на перахаванне. Такім чынам у 1955 годзе замагазінавана звыш 60 мільёнаў кубічных метраў коксавага газу.

## Спосаб на ваўкі

Пастухі поўночных аленяў у Мурманскай акрузе выпадкова знайшлі вельмі добры сродак забеспячэння аленяў ад нападаў ваўкоў, якія дагэтуль рабілі значныя страты.

Шмат клопатаў прычынялі пастухам авадні, якія кусаючы аленяў знізалі вартасць іх скур. Каб пазбегчы гэтага пастухі некалькі год таму назад пачалі ўжываць хімічны сродак — апырскванне аленяў растворам гексахлору. Праз пэўны час нечакана заўважылі дзіўную з'яву: на апырсканыя чароды аленяў перасталі нападаць не толькі авадні, але і ваўкі. Пах гексахлору ёсць вельмі непрыемны і трывалы.

Відаць, драпежнікаў тундры — ваўкоў, якія да чародаў аленяў падыходзяць заўсёды пад вецер, запужаў незвычайны ім пах.

## Будзем глытаць... кароткахвалёвыя перадатчыкі

Як паведамляе «Юнгэ Вэльт» (ГДР), вядомыя дрэздэнскія даследнікі: атамавы фізік, прафесар Ардэннэ і хірург, прафесар Шпрунг, пасля доўгіх доследаў, прыдумалі найдакладнейшу прыладу да выкрывання страўнікавых і кішачных захворванняў у людзей.

Гэта ёсць, так званая, «радыёвая зонда», якая складаецца з маленькага корпуса даўжынёй 24 міліметраў, пакрытага пластычнай масай.

У нутры гэтага корпуса (велічынёй фасолі!) знаходзіцца камплектны кароткахвалёвы радыёвы перадатчык з мікраскапічнымі такімі элементамі, як: транзыстары (заступаюць радыёлямпы) а нават акумулятар. (які спаўняе ролю зонды — цяжкасці).

Хворы глытае «радыё-зонду», як пілюльку, якая вандруе праз органы стрававання г. зн. страўнік і кішкі, сігналізуючы пры гэтым, як бяздратавы тэлеграф, дакладныя, такія даныя, як: ціск, кіслотнасць і г. д.

Гэтыя звесткі перадаюцца «радыё-зондай» спецыяльнаму радыёпрыёмніку, дзе аўтаматычна запісваюцца пры дапамозе самапішучага асцылаграфа. З атрыманых, такім чынам, паказчыкаў, лекар арыентуецца ў родзе захворванняў.

«Радыё-зонду» смела можна залічыць — піша «Юнгэ Вэльт» — да цудаў тэхнікі.

Рэвеляцыйнае гэтае вынаходства неўзабаве будзе выкарыстана ў шырокім маштабе на службе медыцыны.

І. Р.



*Завод імя Ільіча ў Ленінградзе вырабляе высокаякасныя машыны для паліроўкі і шліфавальныя станкі. Завод, між іншым, дае пастаўкі гэтага абсталявання краінам народнай дэмакратыі.*

*Ужо заканчваюцца выпрабаванні заказанага Польшчай металаапрацоўчага станка.*

*На здымку: манцёр С. Іваноў у час рэгуляцыі станка для польскай машыннай прамысловасці.*

*Фото — ЦАФ.*

**Парады гаспадарам**

## Памятаць пра ўборку другога пакосу

Важным момантам уборкі сена ёсць сушэнне травы. У нас практыкуецца сушэнне ў капіцах, а гэта спосаб стары і неэканамічны, дзеля таго, што пры зменнай пагодзе прычыняе вялікія страты даходзячыя да 50 прац. вартасці сена. Нельга тут лічыць на добрую пагоду, а сена прапаласканае вадою страціць цэнныя кармовыя рэчывы. Апрача таго пры гэткай уборцы ёсць шмат працы. Трэба некалькі разоў заграбаць, варочаць, растрасаць і капіць сена ў залежнасці ад таго, як часта праходзяць дажджы, пры чым сена, а таксама матылькавыя расліны як: люцэрна, канюшын, сэрадэля і іншыя крушацца і трацяць вартасць. Сена сушанае ў копках прасякае пахам зямлі, траціць смак. Падчас дажджу сена брудзіцца зямлёю, што абніжае яго якасць. На полі ці лузе, у месцы дзе ляжалі копкі паўстаюць вялікія жоўтыя плямы.

Сена трэба сушыць на сушаках. Застасаванне сушакоў дае здаровае, багатае ў корм, аб прыемным паху і лёгка страўнае сена, забяспечвае яго ад дажджу, змяншае да мінімум працу ў часе сушэння. За сушакі могуць служыць: казлы, дашкі, трыногі (трайногі), якія робіцца з жэрдзяў каля 8—10 см грубасці.

Ужо ў першым дню пасля скашэння, калі трава звяне, можна яе згрэбсці і злажыць на рыштаваннях дашкоў. Сена трэба складаць пластамі, дзеля таго, каб вада не магла пранікнуць яго наскрозь. Сушакі трэба расстаўляць так, каб ніжнія перакладзіны знаходзіліся на вышыні 60 см. ад зямлі.

На лузе сена можна пратрымоўваць толькі пры добрай пагодзе, але калі заносіцца на змену пагоды — тады трэба звозіць яго нават недасушанае, перасыпаючы соллю: на 100 кг сена — 2 кг солі. Солянае сена лепш перахоўваецца і лепш смакуе жывёле.

Мгр. В. ТРАХІМОВІЧ

(Працяг са стар. 5)

## Беларускія жніўныя абрады

*Бадай пану ў двары страшна,*
*Як нам ў полі сонца зайшло.*
*Сонца зайшло, а мы жнема,*
*Пры месяцы снапы носім.*
*Бадай пана не хавалі,*
*Каб сабакі разарвалі,*
*Каб сабакі разарвалі,*
*Каб па пану ваўкі вылі.*

*Бадай пана грамы ўбілі,*
*Як мы ручкі прытамілі.*

*Наш пан — баран, баран,*
*Не пушчае жанцоў зарань.*
*Наша пані авечая,*
*Дзяржыць жанцоў да вечара*
*А мы з поля ідзём*
*Ды прыганятага клянём.*
*Ой, мы свайму пану*
*Учынілі славу —*
*Бо выжалі жыта лаву.*
*Здароў, пане, жыта зжаўшы;*
*Каб ты здох не лепетаўшы,*
*Не хварэўшы, не балеўшы,*
*Ды нашу працу еўшы.*

Гэтыя словы аж надта сведчаць аб цяжкім жыцці жней-прыгонніц. Песняў падобных ёсць незлічоная колькасць не толькі ў беларускім народзе, але усюды, дзе толькі быў прыгон і дзе трэба было працаваць на паноў.

Словамі жней -прыгонніц прамаўляе і наш слаўны паэт Янка Купала ў вершы «Песня жней»:

*Пагнуўшы ў крук худыя спіны*
*Сярпом махаючы крывым,*
*Мы, жонкі, удовы і дзяўчын*
*Пры доўгай постаці стаім*
*І дружна жнём.*
*І падаём*
*Адна аднэй*
*Ахвоту больш*
*І песню жаласна пяём.*
*Асобна кожную загонам*
*Нас надзяліў пан-дабрадзей,*
*А над усімі злы аконам*
*Стаіць, ганяе жаць бардзей.*

. . . . . . . .

*Мы жнём, растуць снапы і метлі,*
*Мы жнём людзям; адно пабач:*
*Гаротным нам хоць лезь у петлі, —*
*Працуй на полі — дома плач.*
*Гэй, жнема, бабкі і дзяўчынкі,*
*Гаруйма: гора — не напасць,*
*Пан справіць гучныя дажынкі:*
*За пот, кроў, слёзы, — водкі дасць!*
*Мы будзем піць,*
*Як гора п'ём,*
*Паноў хваліць*
*І дружна ім*
*Скрозь слёзы песню прапяём.*

Незалежна ад гэтага, трэба сцвердзіць з радасцю, што — нягледзячы на былыя цяжкія палітычныя і нацыянальныя абставіны, у якіх народ наш быў на працягу вякоў, — гэта прыгожае, народнае свята, абрады, звычаі і песні захаваліся з усёй сваёй красой і хараством, адлюстроўваючы ўсё жыццё беларускага селяніна і беларускай вёскі.

П. ЛАСТАЎКА.